# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 48 (1646) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 29 ЛІСТАПАДА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




## НЕПЕРАМОЖАНЫ

Аляксандр Калін нарадзіўся 7 ліпеня 1903 г. у Санніках, што ў Крынюцкай гміне. У 1915 г. разам з бацькамі быў выгнаны ў бежанства ў тадышнюю Таўрыдскую губерню, там пайшоў працаваць у млыне. На вестку аб рэвалюцыі адразу стаў па бок чырвоных змагароў. У 1918 г. уступіў у Камуністычны саюз моладзі Украіны і пайшоў дабравольцам у Чырвоную Гвардыю. Змагаўся супраць бандаў Махно.

На радзіму вярнуўся А. Калін у 1921 г., працаваў на гаспадарцы і лясным рабочым. У 1924 г. уступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, у гадах 1925-27 дзейнічаў у Грамадзе. У 1942 г. гітлераўцы арыштавалі яго і засудзілі на смерць за сарганізаванне партызанскага атрада. Падчас групавога расстрэлу, паранены, упаў ён разам з іншымі, прытварыўся мёртвым і потым уцёк да партызанаў.

Пасля вызвалення А. Калін актыўна ўдзельнічаў ва ўстанаўленні і ўмацаванні народнай улады, ён — член Польскай рабочай партыі і Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

## УСЁ ЖЫЦЦЁ Ў ЗМАГАННІ



Рыгор Яноўскі нарадзіўся 10 лютага 1898 г. у Старым Беразове на Гайнаўшчыне. Падчас па-

(Працяг на стар. 3)

# МЫ-ЧАСЦІНА ЦЭЛАСНАСЦІ

Беластоцкі Інстытут грамадскіх навук быў пераарганізаваны 1 мая 1986 года з Інстытута сацыялогіі. Як першы, так і другі, былі створаны Андрэем Садоўскім.

Цяпер аб навуковай працы дацэнта А. Садоўскага. Магістэрская праца была на тэму: „Гайнаўка — горад дзвюх нацыянальнасцей". Доктарская — „Przemiany świadomości białoruskiej mniejszości narodowej w warunkach przejścia do miasta" (ужо тады, у 1973 годзе, акрэслівае аўтар г. Беласток як сталіцу беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы).

Міграцыя з вёскі ў горад і ўплыў вясковага насельніцтва на горад сталі піянерскай тэмай яго габілітацыйнай працы: „Procesy ruralizacji miast w Polsce — koncepcje teoretyczne i implikacje praktyczne". Гэта новая тэма ў польскай сацыялогіі. Яна выклікала жывы рэзананс і вялікае зацікаўленне ўсіх сацыялагічных асяродкаў краіны. А распрацоўваючы гэтую тэму, А. Садоўскі прабуе „даказаць, што жыхары вёскі з'яўляюцца вельмі важным звяном агульнай культуры народа". Гэта праца на пяць год. У будучым годзе вучоны будзе даследаваць руралізацыю (уплыў вёскі на горад) на падставе Беласточчыны і Беластока.



**Андрэй Садоўскі — сацыёлаг, дацэнт, доктар габілітаваны, дырэктар Інстытута грамадскіх навук (Instytut Nauk Społecznych) Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і разам кіраўнік Кафедры сацыялогіі гэтага інстытута.**

У г.г. выйшла пад рэдакцыяй А. Садоўскага важная кніжка „Białystok w świetle badań społecznych" — плён агульнапольскай канферэнцыі. У ёй знаходзім артыкул А. Садоўскага і Эльжбеты Тарноўскай „Białoruska mniejszość narodowa w Białymstoku", які, як паказала дыскусія на канферэнцыі, выклікаў найбольшае, разам з другім артыкулам А. Садоўскага „Białystok, jako typ miasta ruralnego", зацікаўленне вучоных. У другім артыкуле А. Садоўскага знаходзім, між іншым, цікавыя заўвагі аб суіснаванні і ўзаемапранікненні ў такім руральным горадзе, як Беласток, беларускай меншасці з польскай большасцю.

Ужо два гады працуе таксама дацэнт Садоўскі над тэмай аб так званай „ухадняй сцяне". Сабраў каштоўны матэрыял, будзе выдадзена кніжка. „Без беларускай тэмы праблемы ўсходняй сцяны ўвогуле нельга зразумець", — гаворыць вучоны. Ён імкнецца паказаць пры гэтым, адкуль узяўся адмоўны вобраз нас саміх.

(Працяг на стар. 2)

## Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

Пад Дубровай-Беластоцкай на хутары Вязаўка (па-польску — Вёнзувка) жыве сям'я Лявіцкіх. Яна ўжо трэці год заваёўвае ўзнагароды ў конкурсе па прыкладному будаўніцтву „Залатая вяха". На гэты раз у абгрунтаванні свайго рашэння конкурсная камісія адзначыла, што ўзнагарода Рамуальду Лявіцкаму прысвойваецца за прыкладнае адаўленне і прыстасаванне да патрэб сучаснай жывёлагадоўчай тэхналогіі даўнейшага гаспадарчага будынка.

І было гэта, як мне здаецца, адно з важнейшых рашэнняў 23 конкурсу „Залатая вяха-87" вынікі якога, як заўсёды, урачыста і спраўна былі падведзены ў лістападзе.

За гэтымі конкурсамі сачу я ад самага пачатку і заўсёды здзіўляе мяне жывучасць гэтага каштоўнага грамадска-гаспадарчага мерапрыемства. Конкурс „Залатая вяха" не спыняўся нават у найцяжэйшы час для нашай гаспадаркі. Відаць гэта таму, што спецыялісты па вясковаму будаўніцтву на канкрэтных прыкладах ужо гатовых інвентарскіх будынкаў паказалі сялянам, якім спосабам можна аблегчыць сабе працу і памножыць эфекты сваіх намаганняў.

### ПАД ЗАЛАТОЙ СТРАХОЙ

*

У гэтым годзе гмінныя службы па нагляду за сельскагаспадарчым будаўніцтвам паставілі на разгляд конкурснай камісіі 384 інвентарскія будынкі. У гэтай колькасці апынулася: 285 будынкаў новых і 99 адноўленых, прыстасаваных да сучасных патрэб. Затым Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі далучылася з 26 прапановамі жылых прыкладных дамоў, каб адзначыць іх у паралельным конкурсе „Дом маіх пажаданняў". І гэтыя прапановы ваяводская конкурсная камісія прасеяла цераз сваё густое сіта і вызначыла да ўзнагароды 14 інвентарскіх будынкаў і тры жылыя дамы. Ды яшчэ дадаткова ўзнагародзіла шыльдай „Залатая вяха" рамізу-святліцу добраахвотнай супрацьпажарнай каманды ў вёсцы Кавалі, што ў Суражскай гміне.

З пратакола гэтай жа камісіі вынікае, што спецыялісты па вясковаму будаўніцтву асабліва высока ацанілі комплекснае ўладкаванне сядзібы ў Рамуальда Лявіцкага з хутара Вязаўка ў Дуброўскай гміне, кароўнік

(Працяг на стар. 5)



# АБ ПУСТЭЧЫ

Гаварылі мне пра аднаго чалавека, прозвішча якога паявілася ў энцыклапедыі, што ён некалькі дзён хадзіў козырам і многа разоў, хаця ніхто яго аб гэтым не пытаў, пачынаў размову на тэму ўласнай прамоцыі. Без выразнай патрэбы соваў ён сваім размоўцам, а лепш сказаць, сваім зняволеным слухачам том Энцыклапедыі, дзе было сказана аб яго заслугах. Зразумела, што такі чалавек выстаўляе добрае пасведчанне сваёй унутранай пустэчы. На жаль, такіх людзей, наколькі не памыляюся, на гэтым свеце ўсё болей і болей. Зрэшты яны не патрабуюць звестак аб сабе аж у энцыклапедыях. Не патрабуюць па сутнасці нічога. Хопіць ім выпадкова напатканага чалавека, перад якім пачынаюць гаворку аб сабе. Варта сказаць, што такія пустыя самахвальныя балбатуны выступаюць сярод усіх катэгорый людзей: адукаваных, неадукаваных, маладых, старых, мужчын і жанчын.

Часта, седзячы ў вёсцы, прыслухоўваюся да размоў жанчын, якія заходзяць да сястры. Нямала бывае сярод іх вельмі рацыянальных, відаць, разумных і глыбока ўдумлівых жанчын. Такія жанчыны гавораць параўнаўча мала. Размова іх характарызуецца лаканізмам і канкрэтнасцю. Няма ў іх нават следу самахвальства. Бадай што для іх самае характэрнае тое, што яны ўмеюць слухаць і пытаць. Я асабіста гэтаму тыпу людзей вельмі многа заўдзячваю. Вельмі часта ў іх апініях, выказваннях ёсць шмат каштоўных сацыялагічных або „гістарычных“ інфармацый. Нярэдка паяўляюцца ў іх выказваннях вельмі цікавыя беларускія словы, якіх я дагэтуль не чуў або не чуў вельмі даўно і ўжо іх забыў. Здараецца і такое, што такія людзі зусім як бы несвядома выказваюць сапраўдныя жамчужыны мудрасці, якія заслугоўваюць таго, каб іх запамятаць і запісаць. Цікава, што людзі такога тыпу гавораць найчасцей вельмі ціха, спакойна і паводзяць сябе так, як бы ім было ўсё роўна, ці той, хто іх слухае, верыць ім ці не верыць. Такога тыпу людзі ніколі не божацца, не пытаюць, ці ім верым. Такога тыпу людзі носяць у сэрцах пэўныя праўды і ім па сутнасці ўсё роўна, ці іншыя ім паверацьці не паверaць. Асобы такой катэгорыі ніколі не выказваюць слоў: „а я ўжо гаварыў“, „а я ведаў, што так будзе“, „а я гэта даўно прадбачыў“, „я лепш ведаю“.

І другая катэгорыя асоб, якія ва ўсіх аспектах з'яўляюцца супрацьстаўнасцю тых, аб якіх я толькі што сказаў. Чым характарызуюцца гэтыя асобы? Папершае, вялікай многаслоўнасцю. Па-другое, і гэта для мяне самае страшнае, шырокім апавяданнем аб трэціх асобах, да якіх слухачам не было, няма і не будзе ніякай справы. Асабліва страшныя для мяне тут пераказы таго, што ён у часе нейкіх там спатканняў сказаў тым трэцім асобам і што тыя трэція асобы яму адказалі. Як правіла, маем тут дачыненне з татальным пустаслоўем, якое не пакідае за сабой найменшага следу. І самае страшнае тое, што людзі такога тыпу лічаць, што ўсё, што яны перажылі, з чым сутыкнуліся, што бачылі і што чулі, вельмі важнае не толькі для іх, але і для ўсяго свету. І таму сілком усю гэту бесталач імкнуцца ўвапхнуць у нашы вушы. Сярод гэтых людзей нямала ілгуноў, якія нясуць несусветную лухту і вельмі часта пры гэтым спасылаюцца на сведчанне Бога, ужываючы словы „Ей-Богу!“ або „дальбо-дальбо“! Бяда ў тым, што такая катэгорыя людзей выступае сярод адукаваных.

Калі сустракаю такіх людзей, агортвае мяне паніка і пачынаю разглядацца, дзе б знайсці сцежку, па якой можна было б уцячы.

Усё гэта я бачу ў іншых, але не бачу ў сябе. Зусім магчыма, што многія мае размоўцы думаюць аба мне так, як я толькі што сказаў аб іншых. І хто ведае, ці не маюць глыбокай рацыі.

**Алесь Барскі**



## ЕДНАСЦЬ З НАШАЙ ГІСТОРЫЯЙ

З развіццём дэмакратызацыі ў Савецкай дзяржаве адразу адчулася развіццё нацыянальнае самасвядомасці народаў інтэрнацыянальнае краіны. Не засталася з боку ад гэтага прагрэсіўнага мэтаімкнення за вяртанне ленінскіх прынцыпаў нацыянальнае палітыкі і Беларусь. Сведчанне таму — дыскусіі і мітынгі, прысвечаныя выкрыванню і запаўненню белых плямін нашае гісторыі. Напрыклад, такі мітынг, які адбыўся 1 лістапада г.г. — на дзяды — у мінскім парку імя Купалы і быў прысвечаны памяці забытых нацыянальных герояў, ахвяр шавіністычнай палітыкі самадзяржаўя і ахвяр сталінскага тэрору. Мітынг быў характэрны тым, што ўдзельнічалі ў ім не толькі нефармальныя беларускія суполкі („Талака“, „Тутэйшыя“, „Няміга“, „Галіна“), для якіх сама гісторыя свядома стала Бацькаўшчынай, але і шырокія слаі насельніцтва, многія з якога апынуліся тут выпадкова і, мабыць, упершыню далучыліся да роднае мовы, культуры, гісторыі і адчулі сябе беларусамі, дзецьмі тае зямлі, на якой жывуць.

Зразумела, дэмакратызацыя і надалей будзе пашыраць кола людзей, якія імкнуцца пазбавіцца нацыянальнага і гістарычнага бяспамяцтва. У такіх умовах асаблівую актуальнасць набываюць кнігі, прысвечаныя нацыянальна-гістарычнай і нацыянальна-духоўнай тэматыцы — К. Тарасава „Памяць пра легенды“, А. Мальдзіса „Англійскі дзённік“ і г.д., якія не залежваюцца цяпер на паліцах кнігарань. Літаральна за тры дні разышлося і другое ўжо выданне кнігі Міхася Ткачова „Замкі Беларусі“.

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

Звыш 60 артыкулаў апублікаваў А. Садоўскі ў навуковых часопісах. Рэдагуе штогадовыя ад 1981 г. навуковыя сшыткі інстытута, арганізуе навуковыя канферэнцыі і семінары, у тым ліку і міжнародныя, кіруе працамі чатырох дактарантаў. Адзін з іх піша на надта ж цікавую тэму: Эльжбета Тарноўская „Stan świadomości narodowej białoruskiej mniejszości w społeczeństwach wiejskich Białostocczyzny“.

Андрэй Садоўскі гаворыць: „Рысуюцца новыя магчымасці і перспектывы беларусазнаўчых доследаў. І інфармуе аб толькі што прайшоўшай міжнароднай канферэнцыі ў Беластоку, арганізаванай яго інстытутам, з удзелам 70 вучоных на тэму: „Ogćlne prawidłowości i narodowe uwarunkowania budownictwa socjalistycznego w Polsce“.

Удзельнічалі сацыёлагі з Гродна. Пазнаёміліся яны з працамі беластоцкіх сацыёлагаў на гэтую тэму. Цікавіліся беларусамі ў Польшчы і іх дзейнасцю. Зарысавалася магчымасць плённага супрацоўніцтва, якое дацэнт А. Садоўскі лічыць проста неабходным, асабліва для доследаў над беларускай праблематыкай Беласточчыны, беларусы якой складаюць частку цэласнасці беларускай нацыі. Ён жа і запрапанаваў бліжэйшую тэму для супольнай распрацоўкі „Przemiany stosunków między miastem i wsią na podstawie Białostocczyzny i Grodzieńszczyzny“. Ад самага пачатку існавання сацыялогіі на беластоцкім філіяле УВ А. Садоўскі паслядоўна ажыццяўляе новую сацыялагічную школу, у якой вопыт, канцэпцыі, навуковая інтуіцыя і вясковае тыневіцка-беларускае паходжанне (нарадзіўся і вучыўся ў Тыневічах Вялікіх, закончыў беларускі клас педліцэя ў Бельску) ці лепш, можа, карэнні, адыгрываюць рашучую ролю.

Тое, што мы тут сказалі, вельмі важнае, на мой погляд, па дзвюх прычынах.

Першая. Ідуць вялікія намаганні, каб стварыць у Беластоку універсітэт (нават і назва ўжо замацавалася — Падляшскі універсітэт). Для ўзнікнення такой важнай навуковай установы вельмі істотным з'яўляецца той факт, што ў галіне сацыялогіі і грамадскіх навук ужо жыве і плённа працуе не адбіты ўзор з іншых універсітэтаў ці цэнтраў, а арыгінальны, новы, уласны, базуючы на нашай Беласточчыне ўзор. Кафедра сацыялогіі ўжо існуе як моцны самастойны навукова-доследчы цэнтр, які лічыцца не толькі ў краіне, але і за межамі Польшчы і зацікаўленне якім расце пастаянна. Кафедра мае 6 самастойных навуковых працаўнікоў, 11 дактароў, 13 магістраў. Калі паўстане Падляшскі універсітэт, сацыялогія дацэнта Садоўскага ўліецца ў яго са сваім вялікім і арыгінальным навуковым вопытам, выпрацаваным на базе, якая дагэтуль ляжала аблогам. Гэта важкі аргумент за арганізацыю універсітэта ў Беластоку.

## МЫ-ЧАСЦІНА ЦЭЛАСНАСЦІ

Прычына другая. Сацыялагічныя доследы і тэарэтычныя канцэпцыі, якія з іх вынікаюць, могуць, а нават павінны стацца (пасля азнаямлення з імі) стымулам для перабудовы беларускай дзейнасці, якую вядзе БГКТ. БГКТ, грамадска-культурная арганізацыя, выдаецца, не можа не цікавіцца і не прысвойваць навуковых тэорый нашых вучоных, у даным выпадку трактуючых эмпірычна аб нашай „беларускай нацыянальнай меншасці“.

Андрэй Садоўскі з групай сваіх супрацоўнікаў знаходзяцца ў пастаянным кантакце з гэтай праблематыкай. Яго тэзісы ў гэтай галіне выплываюць з глыбокай сувязі з беларускім асяроддзем і ў сваёй перспектыве — аптымістычныя. Такі вось прыклад: У горад Беласток уцякае моладзь з вёсак — праблема агульнавядомая. А тут у горадзе роля БГКТ у інтэграцыі гэтай моладзі ўжо вельмі невялікая. БГКТ не мае і не выпрацавала прыцягваючай сілы, спосабаў ліквідацыі комплексаў вясковых беларусаў, якія прыходзяць у горад. А такой ролі, такога дзеяння ад БГКТ трэба чакаць. Само Таварыства павінна дабівацца, каб удзельнічаць, як значны раўнапраўны фактар у палітычным і грамадска-культурным жыцці цэласнасці, таксама і ва ўсіх ваяводскіх мерапрыемствах. „Ніва“ мала займаецца горадам Беластокам і беларусамі, якія прыйшлі сюды з вёскі, яна функцыяніруе па-за горадам. А тым часам, беларусаў, больш ці менш свядомых у горадзе, паводле сацыялагічных дадзеных — 50 тысяч. У рамках сваёй вядучай тэмы над уплывам вёскі на горад, у прыватнасці на горад Беласток, наш вучоны выказвае думку, што ўцёкі маладых беларусаў з вёскі — гэта ўцёкі ад беларускасці, але не ў сэнсе нацыянальнасці. Гэта ўцёкі ад тае горшасці, нейкага сораму, ад тых комплексаў ніжэйшасці. Ён гаворыць, што памрэ беларускасць, ідэнтыфікаваная з адсталасцю вёскі, але не памрэ беларускасць як нацыя — яна адначасова народзіцца ці разаўецца на новай базе, таго што закадавана ў нас глыбока, але ў зменeным выглядзе. І праходзіць гэта будзе не спакойным, пасіўным спосабам, а шляхам грамадскіх рухаў (якія непазбежны), навуковай творчасці, культурнай дзейнасці і то на базе цеснага супрацоўніцтва з Беларуссю і шырэй — з Савецкім Саюзам. „Мы — часціна шырэйшай цэласнасці і гэтыя ніці трэба адбудаваць. Цесная сувязь з Беларуссю неабходна“.

Роля БГКТ у інтэграцыі навуковага асяроддзя, якое займаецца беларускай, ці шырэй — нацыянальна-меншаснай праблематыкай, павінна быць рэальнай, і павінна ўвогуле быць!

Да тэмы, прадстаўленай тут намі, трэба вяртацца і вяртацца. Нам таксама вядома, што дацэнт Андрэй Садоўскі згодны апублікаваць у „Ніве“ свае артыкулы.

**Вера Валкавыцкая**

# УРАЧЫСТАСЦІ Ў КЛЕНІКАХ

Гарады і вёскі Беласточчыны сустрэлі 70-ую гадавіну Кастрычніка чырванню сцягоў на вуліцах і плошчах, урачыстымі ранішнікамі ў школах, вечарынамі ў клубах і святліцах. У Кленіках дзень 7 лістапада быў асабліва ўрачысты. Гэта было сапраўднае народнае свята. Да гэтага дня кленіцкае грамадства прыстасавала адкрыццё помніка савецкім разведчыкам-вызваліцелям, якія першымі пасля доўгіх гадоў нямецкай акупацыі прыйшлі ў Клені́кі. Помнік пабудавалі жыхары вёскі па ўласнай ініцыятыве, за ўласныя грошы і ўласнымі рукамі.

Падзеі 42-гадовай даўнасці, калі першая група савецкіх франтавых разведчыкаў паявілася ў Кленіках і трапіла на нямецкую засаду, яшчэ свежыя ў памяці сведкаў. Трыццаць тры маладыя хлопцы загінулі тады на месцы, дзе сёння стаіць супрацьпажарная раміза і дзе кленічане паставілі ім гэты помнік.

— Ніколі не забуду, як яны там ляжалі, адзін пры адным, загорнутыя ў плашч-палаткі. Усе маладыя. Іх тады толькі трошкі прысыпалі зямлёй. А хавалі ўжо потым, — успамінае Уладзімір Бачынскі.

Ініцыятарамі пабудовы помніка былі мясцовыя актывісты — члены партыі і пажарнікі. Выбраны быў пяціасабовы камітэт пабудовы, які і ўзяў галоўным чынам на сябе ўвесь цяжар арганізацыйнай ды і ўсёй іншай работы.

І вось 7 лістапада, у гадавіну Вялікага Кастрычніка, помнік стаіць у поўнай сваёй велічы. Вялізны камень на высокім пастуменце, з залатой пяціканцовай зоркай зверху і ззяючай золатам таблі́цай з надпісам: „W hołdzie żołnierzom Armii Radzieckiej, którzy oddali życie za wyzwolenie Klejnik w 1944 r. Jednostka OSP i mieszkańcy Klejnik. 7.XI.1987 r.“

Помнік, святочна перавязаны бела-чырвонай стужкай, у акружэнні сцягоў, ганаровай варты з пажарнікаў і гарцэраў, чакае свайго ўрачыстага адкрыцця.

Аб урачыстасці ў Кленіках было абвешчана па ўсёй Чыжоўскай гміне. Таму ўжо з самай раніцы на пляцы пры рамізе пачалі збірацца людзі. Школа з'явілася з вянкамі і транспарантамі. Мясцовыя пажарнікі прыйшлі ў сваёй парадзнай форме, з Гайнаўкі прыехала ганаровая кампанія пажарнікаў (у большасці, гэта хлопцы з Мора), быў ваенны аркестр з зубрамі на нарукаўніках. Прыехалі запрошаныя ганаровыя госці з Беластока і Гайнаўкі, а з імі і прадстаўнікі Савецкай Арміі.

І ніякі дождж ці холад, хоць неба ў той дзень вісела нізка над галавой чорнымі, поўнымі дажджу хмарамі і дождж штораз прабаваў палохаць сабраўшыхся, не папсавалі ўрачыстасці. Да канца вытрымалі нават бабулі з малымі ўнукамі, маці з дзецьмі, якія прыйшлі сюды не толькі з Кленік, але і з суседніх вёсак.

Адкрыў урачыстасць солтыс вёскі Кленікі і дзеяч добраахвотнай пажарнай каманды Васіль Купрыяновіч. Па чарзе выступалі ганаровыя госці, віншуючы ўсіх са святам Кастрычніка і з такой вартаснай ініцыятывай пабудовы помніка. Гэта быў яшчэ адзін урок навейшай нашай гісторыі і грамадскага выхавання для моладзі, урок на канкрэтным прыкладзе гісторыі роднай вёскі і на прыкладзе грамадскай паставы бацькоў.

На гэтай урачыстасці многія жыхары Кленіцкай гміны атрымалі высокія ўзнагароды.

Пастановай Рады Дзяржавы „Медаль Перамогі і Вызвалення 1945“ уручаны быў Янку Касцючуку з Кленік, медалі „За ўдзел у барацьбе за абарону народнай ўлады“ атрымалі Цімафей Барташук з Лянева, Тамаш Лаеўскі з Мора, Мікалай Леанюк з Кленік і Мікалай Качаноўскі з Чыжоў.

Медалі „За ўдзел ў абароннай вайне 1939 г.“ уручаны былі жонкам ужо памершых Хведара Грыгарука з Кленік і Рыгора Аляксеюка з Лянева.




**Помнік савецкім воінам-вызваліцелям у ганаровым прыбранні і ў прысутнасці ганаровай варты гарцэраў і пажарнікаў гатовы да адкрыцця.**

Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку прызнаў залаты знак „Заслужаны для Беласточчыны“ Хведару Яканюку з Кленік, а сярэбраныя — Уладзіміру Бачынскаму і Янку Базылюку з Кленік, Вользе Дудзіч з Лянева, Антону Янцэвічу з Лушчоў і Мікалаю Андрэюку з Вулькі.



**Самыя актыўныя дзеячы кленіцкай арганізацыі пажарнікаў і пабудовы помніка.**

Ваяводскі камітэт аховы помнікаў барацьбітам прызнаў адзнакі апекуноў месц народнай памяці Уладзіміру Бачынскаму, Янку Базылюку, Васілю Купрыяновічу, Васілю Лапінскаму, Хведару Яканюку і Янку Місеюку. Ім жа, як самым актыўным будаўнікам помніка, Ваяводскае праўленне ТППР прызнала залатыя ганаровыя значкі ТППР

Шмат узнагарод атрымалі жыхары гміны — члены добраахвотных пажарных каманд з раённага і ваяводскага Саюза добраахвотных пажарных каманд. 5 чалавек было ўзнагароджана сярэбранымі медалямі за заслугі для пажарніцтва, 6 чалавек бронзанымі медалямі, а 11 чалавек атрымала пахвальныя граматы. Ганаровыя дыпломы ад пажарнікаў атрымалі таксама настаўнікі — апекуны гарцэрскіх дружын.

Пасля ўручэння ўзнагарод адбылася ўрачыстая пераклічка загінуўшых, адкрыццё помніка і складанне кветак. Калі пажарнікі запалілі ля помніка факелы, а падножжа яго пакрылася кветкамі, урачыста быў зачытаны Акт перадачы апекі над помнікам мясцовай гарцэрскай дружыне.

Свята закончылася шматгадзінным канцэртам на школьнай сцэне. З праграмай, прысвечанай 70-годдзю Кастрычніка, выступіў школьны хор. Слоўна-музычны мантаж падрыхтавала з вучнямі настаўніца Марыя Галавачык.

Выступіў таксама малады яшчэ стажам фальклорны калектыў з Чыжоў, які працуе пад кіраўніцтвам Галіны Мартынюк. А на заканчэнне з вялікім энтузіязмам гледачы прымалі беластоцкі хор „Каласкі“ з такімі слаўнымі ў нашым асяроддзі Сцяпанам Копам, Валяй Ляскевіч, Любай Гаўрылюк, Юркам Налівайкам і іншымі.

Яніна Чэрнякевіч

Фота аўтара

**Зварот Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства да членаў Таварыства і ўсіх беларусаў у Народнай Польшчы**

Сяброўкі і сябры, грамадзяне!

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ад пачатку свайго існавання актыўна ўключалася ў грамадска-палітычнае жыццё Народнай Польшчы, падтрымлівала ўсе прагрэсіўныя пераўтварэнні, якія адбываліся ў нашай сацыялістычнай краіне. Таксама ў апошнія, даволі цяжкія для грамадства гады, Беларускае таварыства выказвалася за далейшыя сацыялістычныя перамены ва ўсіх галінах нашага жыцця.

Назначаны Сеймам ПНР на 29 лістапада 1987 г. рэферэндум з'яўляецца доказам дэмакратычных перамен, якія здзяйсняюцца ў нашай краіне. Пытанні рэферэндума адносяцца да праблемаў паскарэння перабудовы гаспадаркі і далейшай дэмакратызацыі палітычнага жыцця. Ад яго вынікаў будуць залежыць тэмпы паляпшэння умоў жыцця паасобных людзей і ўсяго грамадства.

Усведамляючы асаблівае значэнне рэферэндума для ўсіх жыхароў Польшчы, звяртаемся да членаў БГКТ і ўсіх беларусаў з заклікам узяць масавы ўдзел у галасаванні і сваім падвойным ТАК аказаць падтрымку для новага этапа рэформы. Няхай наш удзел у рэферэндуме будзе паказчыкам і доказам нашай грамадзянскай сталасці, падтрымкай для тых, хто хоча Польшчы багатай і справядлівай, адназначным адпорам усім тым сілам, якія ізноў прагнулі б піхнуць нашу краіну ў абдымкі хаасу і анархіі.

Беласток, 22 лістапада 1987 г.

**Галоўнае праўленне БГКТ**

(Працяг са стар. 1)

**МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

дзей Вялікага Кастрычніка якраз быў у царскай арміі, разам са сваёй вайсковай часцю перайшоў на бок бальшавікоў і дабравольцам уступіў у Чырвоную Гвардыю. На розных франтах грамадзянскай вайны змагаўся да красавіка 1919 г. Вярнуўся на радзіму — тут чакала яго рук разбураная бацькава гаспадарка.

У 1924 г. Р. Яноўскі ўступіў у Беларускую рабоча-сялянскую Грамаду, а затым у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі і актыўна працаваў у абедзвюх арганізацыях. Падчас гітлераўскай акупацыі дзейнічаў у партызанскім атрадзе імя Ф. Дзяржынскага. Трапіў у канцэнтрацыйны лагер. У 1944 г., пасля вызвалення, уступіў у Савецкую Армію і служыў у ёй да канца вайны.

Р. Яноўскі — член Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

**Б. Нікіцюк**




Сярод студэнтаў з Польшчы, якія вучацца ў Ленінградзе, расказваюцца цікавыя анекдоты. **Першы.** Пытанне: Што такое Ленінград? Адказ: Ленінград — гэта філіял ліцэя Тарашкевіча ў Бельску. **Другі.** Студэнты ў Ленінградзе дзеляцца на: студэнтаў з Беларускага ліцэя Тарашкевіча ў Бельску і іншых.

Мне вельмі падабаюцца абодва жарты. Яны і гавораць нам аб значэнні ленінградскіх вузаў у жыцці і вучобе нашай моладзі, аб вялікай ахвоце тарашкевічаўцаў вучыцца ў гэтым горадзе, аб модзе на Ленінград, ну і аб тым, што маладыя людзі добра там сябе адчуваюць.

Абсальвенты ліцэя Тарашкевіча ў Бельску вучацца ў многіх савецкіх гарадах. І цікава, што з кожным годам у гэтым пераліку паяўляюцца новыя гарады (як і новыя спецыяльнасці), у якія маладыя людзі едуць вучыцца.

Вось пералік шчаслівай 13 з беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску, якія паступілі ў вышэйшыя школы СССР з сёлетняга выпуску 1986/87: Аля Тарасюк з Плёскаў — Ленінград (спецыяльная педагогіка), Януш Шыманскі з Орлі — у Рыгу (самалёты і прылады), Юра Сакалоўскі з Кашалёў — Ленінград (дакладная механіка), Крыся Анішчук з Зубава — у Новасібірск (эканоміка сувязі), Рамуальд Верхавец з Нурца каля Боцькаў — Новасібірск (эканоміка сувязі), Аля Нічыпарук з Бельска — Масква (эканоміка сувязі), Рэгіна Налівайка — Сімферопаль (медыцына), Андрэй Трафімюк з Бельска — Сімферопаль (медыцына), Мар'я Кулік з Маліннік — Ленінград (стаматалогія), Юлія Данілюк з Бельска — Кіеў (стаматалогія), Юліта Врублеўская з Бельска — Кіеў (стаматалогія), Адам Рудзюк з Бельска — Масква (дыпламатыя).

Як бачым, новыя гарады нашых студэнтаў — не толькі вялікі і надта модны на свеце Новасібірск, але і Рыга, і Сімферопаль. Дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску А. Карпюк, вельмі ж задаволены і ганарыцца тым, што двое яго выхаванкаў трапілі ў Новасібірск — магутны сучасны навуковы цэнтр, які ўжо ўступіў у XXI стагоддзе і дзе вырашаецца навука будучыні. Меў дырэктар Карпюк і такое здарэнне ў сувязі з Новасібірскам. Адна маці, калі даведалася, што дачка паступіла вучыцца ў Новасібірск, прыбегла да дырэктара ўсхваляваная, што далёка, што змерзне дачка. А дачка паехала ў Новасібірск і ў першы асенні прыезд дадому зайшла да дырэктара з кветкамі-падзякаю, задаволеная, шчаслівая. Паказвала паштоўкі-краявіды з Сібіры. „Прырода якая цудоўная там! То на рацэ Об", — расказвала.

З новых спецыяльнасцей, па якія замахнуліся бельскія беларускія абсальвенты, хачу адзначыць дыпламатыю.

Цяпер за мяжой вучацца 52 былыя выпускнікі ліцэя Тарашкевіча, з іх дзве асобы — дактаранты: Андрэй Карпюк у Ленінградзе і Міраслаў Жужаль у Кіеве. Закончыла вузы ў СССР ад 1973 г. — 12 чалавек.

А як маецца справа іншых сёлетніх выпускнікоў Беларускага ліцэя ў Бельску?

У вышэйшыя школы краіны паступіла: у медыцынскія акадэміі — 11 чалавек, эканамічныя — 9, палітэхнічныя — 5, юрыдычныя — 5, настаўніцкія — 6, універсітэцкая матэматыка — 2, беларуская філалогія — 3, бібліятэказнаўства — 2, Беластоцкі філіял Варшаўскага Універсітэта — 3, іншыя школы — 2. **(вв)**




### ГЛУМ НАД ЛЮДЗЬМІ

Як успамінаюць старыя людзі, найцяжэйшай работаю ў гаспадарцы было жніво: як пачне гаспадар махаць сярпом у полі, то і цэлы месяц так прамахае, запацелы і зmoраны. І штодзень, і з усёю сям'ёй. І дзетак малых валаклі з сабою, на тую пожню. Аднак і жылі неяк, і мелі час паадпачываць, і на пагулянку якую схадзіць. І песні чуліся, і радасць знаходзілася. А цяпер усянютка наадварот з людзьмі зрабілася: ні радасці тае ў іх, ні адпачынку, ані песняў ці танцаў... Кожны зрабіўся якісьці нецярплівы, злосны, хуткі на сварбу і скандал! Настане тое жніво — два-тры дні і ўжо па жніве. Але колькі нерваў патраціць?! З месяц галава хадуном ходзіць ад гэтага. Усім на думцы „Бізон", камбайн.

Прыдзе жніво, то — думаеце — людзі ў полі? Дзе там — тлумам на дарозе стаяць яны, камбайн „Бізон" падпільноўваюць, каб кожнаму пажаў і памалаціў. У полі пуста, бязлюддзе. Во які час: схопішся з пасцелі ўпорань і прэш у тую базу камбайнаў (мае яна афіцыйную назву, але такую, што і языком не павернеш, найлепей было б назваць яе: ГЛУМ НАД ЛЮДЗЬМІ). А там, бачыш, каля тае базы гімжыць народу, бы на фэсце пад царквою! Усякіх самаходаў, як у торг мястэчковы. А хто ж гэта прыехаў аўтамі? А гаспадары гэта паз'язджаліся нашыя, з трох вёсак, з Махнатага, з Дубічаў-Асочных, з Стараберазова. Багатыры, з грашыскамі. Давай ім камбайны, заплацяць кажнюткую цану, каб толькі пажаць збожжа, не датыкаючыся да зямлі, да поля. І праўда: будзь тут разумны на той базе і спрабуй дагадзіць усім. А камбайнаў усіх у нас раптам тры. Таму спачуваю я кіраўніку гэтай базы. І дзівуюся, як ён яшчэ не ашалеў ад такога гвалту!? Ён ужо ад самога рання ходзіць, як ачмурэлы, бывае, і ў кантору сваю не трапіць, бокам пойдзе, так яна яму абрыдне за гэты час...

Камбайны працуюць, як даюць рады, часам паводле чаргі ў спіску, або і не. Усё залежыць ад таго, у каго мацнейшы голас — крыкам бяруць тыя камбайны, іншы раз і мацюгамі. Камбайнёр у жніво — гэта пан над панамі, нават ваявода яму не раўня. Ну бо што той ваявода: збожжа табе не пажне, а камбайнёр пажне. Шышка з яго вялікая ў жніво! Сядзіць ён на сваім камбайне, высока сядзіць, бы арол на гняздзе, і пазірае з насмешкаю на тлум „хлопцаў" са сваімі „малюхамі", „фіятамі" і іншым модным ломам нікеляваным. Клянеш ты камбайнёра, але што гэта за праклёны, калі ты ўнізе, амаль на каленях стаіш, а ён угары сядзіць, над табою, бы бусел над жабаю. А хто вышэй, той і важней! Так заўсёды было, таму калісьці каралеўскія троны былі высокія, а народ падаў і адвешваў паклоны ў гразнечы, з поламі ў лужы.

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

# ПАД ЗАЛАТОЙ СТРАХОЙ

Рыгора Шацілоўскага з вёскі Пагажалкі ў гміне Дабжынева-Касцельнае, свінарнік Яўгена Пухальскага з вёскі Касёркі ў Монькаўскай гміне, а таксама два жылыя дамы: адзін у вёсцы Багны на Дуброўшчыне, уласнікам і жыхаром якога Мечыслаў Вайтэчка, а другі — у вёсцы Доўгі Луг, Карыцінскай гміны, які належыць Андрэю Урбану.

*

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства сяляне маюць зараз амаль 83 тысячы розных інвентарскіх будынкаў. У асноўным былі яны пабудаваны ўжо пасля вайны. Толькі дзесяць тысяч сярод іх сваім узростам сягае даваеннага часу. Значыць, вёска наша пабудавалася рукамі і намаганнямі самых сялян ужо ў пасляваенны час. І не было такога года, каб новыя інвентарскія і жылыя будынкі не паяўляліся ў вясковым краявідзе. На працягу трох мінулых кварталаў гэтага года гмінныя службы па нагляду за будаўніцтвам далі дазвол на пабудову 861 жылога дома і 336 інвентарскіх будынкаў.

Гэты працэс па аднаўленню нашай вёскі можна было б паскорыць, каб гмінная сельскагаспадарчая і будаўнічая службы больш увагі звярталі на рамонт і сучаснае прыстасаванне ўжо існуючых інвентарскіх будынкаў. Спецыялісты па вясковаму будаўніцтву ацэньваюць, што каля 40 працэнтаў ад ужо існуючых будынкаў можна смела мадэрнізаваць. У гэтым выпадку адпадае многа клопатаў, асабліва з пакупкай дэфіцытных матэрыялаў, паніжаецца кошт мерапрыемства.

То ж сялян, якія рашаюцца на геройства новай пабудовы, ніхто не абдароўвае неабмежаванай колькасцю будаўнічых матэрыялаў і неабходнага тэхналагічнага абсталявання. Асабліва глыбокі дэфіцыт заўжды праяўляўся ў пастаўках рознага роду дахоўкі. Найбольшую папулярнасць здабыў у нас, як вядома, этэрніт (шыфер). Асноўная сыравіна для яго вытворчасці — гэта азбеставае валакно. Польшча свайго азбесту не мае. Крыху гэтай сыравіны пастаўляе нам Савецкі Саюз. Аднак савецкі азбест адзначаецца кароткімі валокнамі. Каб павысіць якасць азбеставых пліт, неабходна дабаўляць валакно, купленае ў заходніх пастаўшчыкоў. А яны патрабуюць цвёрдай валюты. На дабавак прызнана, што азбеставае валакно мае ракатворчыя ўласцівасці. Дык з азбеставымі плітамі неўзабаве прыдзецца развітацца назаўсёды. Што тады ў замен? Ці традыцыйная чарапіца, ці што іншае, нейкі новы, шмат лягчэйшы і болей устойлівы матэрыял?

На жаль, гатовай развязкі пакуль што няма. Гэта неадкладнае заданне для нашых вучоных, спецыялістаў па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.

*

Хутар Рамуальда Лявіцкага выглядае здалёк, як зялёны астравок сярод раўніннага поля, зрэдку толькі парэзанага невялічкімі ўзгоркамі. Натоўп гасцей, прадстаўнікоў розных ваяводскіх устаноў па абслугоўванню вясковай гаспадаркі, паслухмяна пайшоў за гаспадаром. Знаёмімся з распарадкам яго гаспадаркі. Сапраўды нічога няма тут лішняга, усё на сваім месцы, лагічна прадумана.

Ад'язджаючы з хутара Вязаўка, я з палёгкай у сэрцы падумаў аб будучыні нашай вясковай гаспадаркі. Можа гэта і добра, што абяздоленая зямля пяройдзе ў рукі такіх руплівых гаспадароў, як Рамуальд Лявіцкі — чалавек яшчэ параўнальна малады, але які ведае, чаго патрабаваць ад жыцця, чалавек, які зусім не адчувае за сабою пакрыўджанасці лёсам, што давялося яму капацца ў зямлі. Сапраўды, яму добра жывецца пад „Залатой вяхой".

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**На хутары Рамуальда Лявіцкага.**

## БЕЛАРУСІКІ

Diemientiej Nikołaj: Społeczny rozwój białoruskiej wsi. Tł. *Międzynarodowe Czasopismo Rolnicze* 1985, nr 5, s. 11—14.

Dobski W(itold), Na wieczną pamięć (ofiarom wioski Chatyń). Korespondencja z ZSRR, *Za Wolność i Lud* 1971, nr 45, s. 13, il.

Doroszkiewicz Wiktor, Nowołatinskaja poezija Biełorussii i Litwy. Mińsk 1979. Rec. Sielicki Franciszek, *Przegląd Humanistyczny* 1979, nr 9, s. 140—143.

Dowda Halina, Stają kołchozy do konkurencji. Z wizytą na Litwie i Białorusi, *Trybuna Ludu* 1983, nr 196, s. 6.

Dramat i teatr narodów słowiańskich w XX wieku, Wrocław 1979. Rec. Jankowska Barbara Teresa, *Pamiętnik Słowiański*, t. 30, 1930, s. 197—200.

Drewnowski Zbigniew, (Przemówienie... na sesji Historycznej poświęconej 50-leciu powstania i rozwoju Białoruskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej), *Notatnik Płocki* 1969, nr 2, s. 4—5.

Drewnowski Zbigniew, Z wizytą u przyjaciół (na Białorusi). *Barwy* 1969, nr 1, s. 5, il.

Drozdowski Zbigniew, Dermatologiczne zróżnicowanie Białorusinów w świetle metody diagraficznej, *Przegląd Antropologiczny*, t. 38, 1972, z. 2, s. 265—269, rys. Res. Sum.

Dubińska Barbara, Na ziemi białoruskiej, *Życie partii* 1972, (nr) 5, s. 46—47, il.

Dułow A. W., Sudiebnaja psichologija. Mińsk 1970. Rec. Zacharias Andrzej, *Prawo i Życie* 1970, nr 24, s. 6.

Dyjalektałahiczny atłas biełaruskaj mowy. Mińsk 1963. Rec. *Slavia Orientalis* 1967, nr 2, s. 181—186.

Dzięboswska Elżbieta, Białoruś — Moniuszcze, *Współczesność* 1969, nr 13, s. 9.

Dzięboswska Elżbieta, W cieniu ubielskiej topoli. Białoruś ku czci Moniuszki. Korespondencja z ZSRR, *Trybuna Ludu* 1969, nr 136, s. 8.

E. K.: Białoruskie rozmaitości, *Literatura na Świecie* 1982, nr 11, s. 168—171.

Ekonomika Sowietskoj Bielorussii 1917—1937. Mińsk 1967. Rec. Tomaszewski Jerzy, *Studia z Dziejów ZSRR i Europy Środkowej*, t. 5, 1969, s. 241—244.

Fajnhauz Dawid, Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi 1846—1848. Warszawa 1965. Rec. Koberdowa Irena, *Przegląd Historyczny* 1966, z. 3, s. 464—467; Śmiałowski Józef, *Kwartalnik Historyczny* 1966, nr 2, s. 460—463; Tyrowicz Marcin, *Przegląd Humanistyczny* 1966, nr 2, s. 460—463; Tyrowicz Marcin, *Przegląd Humanistyczny* 1966, nr 6, s. 154—158; Berghauzen Janusz, *Acta Baltico-Slavica*, t. 5, 1967, s. 369—371.

Federowski Michał, Lud Białoruski. Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905, T. 5—6, Pieśni, T. 7. Suplement Warszawa 1958—1960. Rec. Grabowski Tadeusz Stanisław, *Ruch Literacki* 1968, z. 4, s. 244—247.

Fryc Adam, Zakończenie Dni Literatury Polskiej na Białorusi, Korespondencja z Mińska, *Życie Warszawy* 1976, nr 245, s. 4.

Fuks Marian, U przyjaciół na Białorusi, *Ruch Muzyczny* 1972, nr 20, s. 15, il.

Fuks Marian, W Ubielu Mińskim i Moskwie, *Ruch Muzyczny* 1986, nr 15, s. 17—18.

Fuks Marian, Z wizytą w Ubielu i w Mińsku, *Ruch Muzyczny* 1977, nr 12, s. 13—14, il.

Galinskaja T., KPZB — rukowoditiel oswoboditielnoj borby trudiaszczichsia Zapadnoj Biełorussii 1924—1928 gg., Mińsk 1956, Rec. Bergmanowa Aleksandra, *Z Pola Walki* 1966, nr 4, s. 174—177; Majecki Henryk, *Acta Baltico-Slavica* t. 5, 1976, s. 387—391.

Garniewicz Janusz, Białoruskie Towarzystwo Naukowe w Wilnie (1918—1939), *Acta Baltico-Slavica* t. 16, 1984, s. 97—109.

Gawecka Aldona, Organizacja i zadania Akademii Nauk Białoruskiej SRR, *Nauka Polska* 1969, nr 6, s. 102—103, tab.

Gerlach-Skłodnicka Jadwiga, Historyczno-etnograficzny atlas Ukrainy, Białorusi i Mołdawii, *Lud*. t. 52, 1968, s. 211—314.

German Franciszek, Jeszcze o pieśni białorusko-polskiej. (Kontakty Kulturalne polsko-białoruskie w XIX w.) *Opole* 1973, nr 3, s. 30, il.

Gerus Seweryn, Migawki z Białorusi. — Refleksje z Leningradu. *Wychowanie* 1966, nr 19, s. 38—39; nr 20, s. 24—25.

**P.C.**

## ХТО ПАМІРАЕ Ў БЕЛАСТОКУ?

Надаў я сабе клопату скласці статыстыку смерцяў у Беластоку за трыццаць шэсць месяцаў, гэта значыць: ад першага ліпеня 1983 г. да трыццатага чэрвеня 1986 г. Падлікі правёў на падставе паведамленняў, якія рэгулярна публікуе „Кур'ер Падляшскі". І так, на працягу гэтых трох гадоў памерла ў Беластоку 6.625 чалавек, у ліку 3.562 мужчын. Штогод памірала ў сярэднім 2.208 чалавек — у 54 працэнтах мужчыны. На кожных трох памершых, двух былі пастаяннымі жыхарамі горада. Статыстычна беластачанін жыве шэсцьдзесят тры гады.

Няшмат паміраюць ва ўзросце ад 1 да 10 год — усяго 0,8 прац. Ва ўзросце ад 11-ці да 20-ці гадоў роўна адзін працэнт усіх памершых за тыя 36 месяцаў. Паміж 21-м і 30-ым гадамі жыцця памерла 3,2 прац. І далей — ва ўзросце ад 31-га да 40-га — 4,3 прац., затым: 41 — 50 г.г. ужо 7,1 прац., 51-60 г.г. будзе 16,1 прац., 61-70 г.г. будзе гэтак жа 16,1 прац., а старэйшыя, 71-80 г.г. — 29 прац., 81-90 г.г. — 19 прац., 91-100 г.г. будзе 3,3 прац., і больш 100 гадоў — 0,1 прац. У першых сямі ўзроставых групах (1-70 г.г.) больш памірала мужчын, г.зн. ад 57,5 прац. у групе 61-70 г.г. да 69,1 прац. у групе 51-60 г.г. Жанчыны наогул даўжэй жывуць за мужчын, таму ў апошніх узроставых групах, звыш 70-сяці гадоў, памірае іх найбольш.

Найчасцей паміралі мужчыны ва ўзросце 76 гадоў, г.зн. 113 асоб у год, а жанчыны — ва ўзросце 79 гадоў, г.зн. 121 асоба. За тыя тры гады памерла ў Беластоку адзінаццаць чалавек, якім было сто і больш гадоў. Мужчыны рэдка дажываюць да гэтакіх гадоў.

Калі гаварыць пра поры года, у якія найбольш памірае людзей, дык гэта: люты, лістапад, снежань. Найменш паміраюць у маі, чэрвені, жніўні.

**Пятро Байко**

## НЕ ЧАЎШ САБЕ БЯДЫ!

24 кастрычніка адбылася прыемная ўрачыстасць у клубе бельскага Энергетычнага раёна — ішоў на пенсію шматгадовы працаўнік і добры чалавек Іван Анішчук. Акрамя сардэчнасці і букетаў, Анішчуку падарылі крыштальны вазон, на добры ўспамін.

— * —

Бася Валадкевіч вельмі ўдана правяла акцыю дастаўкі нашым энергетыкам гародніны і фруктаў на зіму. Асабліва шмат купілі цыбулі і яблык.

— * —

Не ўсе задаволены рахункамі за электрычнасць, некаторым яны здаюцца завысокія. Можа лічыльнік блага ходзіць і лупіць, як дурны, тыя кілаваты? Таму кожны можа звярнуцца ў наш Энергетычны раён па сваёй справе, нават падвечар, бо ў панядзелкі працуем да пятае гадзіны.

Усялякія аварыі сваёй электрычнай інсталяцыі не трэба папраўляць самому, а трэба клікаць нашых спецыялістаў. Чалавек, не знаючыся на электратэхніцы, гатоў яшчэ бяды начаўпсці!

**Ж. М.**

*Не купіў бацька шапкі, хай вушы мерзнуць.*

*

*Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўкі выбіраючы.*

*

*Не шукай красаты, а шукай дабраты.*




**Чытачу „Мы".** Называем вас так, бо не падпісаліся вы пад сваім лістам у рэдакцыю. Ці таму, што выступаеце не ад уласнага імя? Пішаце: „Мы — чытачы „Нівы". Крытыкуеце „Беларускі каляндар-87" і папраджаеце санкцыяй „Ніве" („Мы, сумленныя чытачы, адмовімся ад падпіскі на „Ніву"). Згаджаемся з крытыкай, але чаму менавіта хочаце пакараць нас? Чый грэх, няхай таго будзе і пакута.

(Працяг са стар. 2)

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

Ва ўступе да кнігі аўтар піша: „Карл Маркс называў гарады Еўропы XIII-XVI ст. „самай маляўнічай кветкай сярэднявечча". Гэта вобразнае параўнанне з поўным правам стасуецца і да гарадоў Беларусі."

Сапраўды, кніга даволі пераканаўча прадстаўляе гэтую беларускую „кветку сярэднявечча". Чатыры раздзелы гэтага навукова-папулярнага каталога змястоўна прадстаўляюць вежы тыпу „данжон" у Беларусі, вялікакняжацкія замкі і ўмацаваныя храмы. Томіку спадарожнічае кароткі слоўнік тэрмінаў з галіны ваеннага дойлідства. Фотаздымкі і малюнкі (на жаль, толькі чорна-белыя) яшчэ болей набліжаюць нас да гэтых узораў стваральніцкага генія нашага народа, прадстаўляючы Аршанскі, Крэўскі, Лідскі, Гальшанскі замкі, фрагменты гістарычнай забудовы Магілёва, Менска. Да таго ж вокладка кнігі (на шчасце, каляровая) маляўніча прадстаўляе нам магутны шэдэўр архітэктуры пачатку XVI ст. — Мірскі замак і Сынкавіцкі храм-крэпасць прыкладна таго ж перыяду. Апошні, праўда, па недагляду мастацкай рэдактуры намылкова падпісаны як „руіны Наваградскага замка". Але гэтая адзіная памылка не перашкодзіць кнізе ў задачы распаўсюджвання ідэі і эстэтычнай і гістарычнай еднасці сучасных пакаленняў са сваім народам.

**В. Мартыненка**

*Ганарар на Музей*

*) М. Ткачоў, Замкі Беларусі. Мн., „Полымя", 1987, стар. 224.

(Працяг са стар. 5)

## З МАЁЙ ЗВАНІЦЫ

Далі рады мы пажаць. Дзякуючы і землякам з Савецкай Беларусі. Суседзі дапамаглі суседзям. Добра, што дапамаглі. Толькі, ці мы самі ўжо такая бесталач, што трэба нам прасіць дапамогі?

**Г. Мароз**




У бядзе заўжды свой горнецца да свайго. Дык Мікалай Бартнічук найперш падумаў аб даўнейшых членах Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, з якімі не адзін раз сустракаўся на сходах і ўдзельнічаў у распаўсюджванні першамайскіх лістовак, вывешванні сцягоў і лозунгаў. Да ліку гэтых таварышаў належалі яго памочнікі па падрыхтоўцы дапрызыўной моладзі: Сямён Навумчык і Грышка Манцюк.

Стаяла чэрвеньская спёка. Гарачы час сенакосаў. Для сапраўднага селяніна нішто не магло перашкодзіць у гэтай неадкладнай працы. Ехалі на сенажаць нават у нядзелю, каб звезці ў клуні сухое сена. У М. Бартнічука не было, аднак, уласнай гаспадаркі. Яго бацька пасвіў вясковыя каровы. А да працы на чужым не меў ахвоты. „Далоў кулацкіх эксплуататараў!" — любіў ён паўтараць папулярны пры савецкай уладзе лозунг. Пад гэтым лозунгам намагаліся ўстанавіць таксама і ў Рагачоўскім сельсавеце новы калгасны лад у вёсках.

— Ну, як жа быць? Што ты мяркуеш, Сямён? — пытаў Бартнічук у Навумчыка.

— Ты — камандзір, ты і давай каманду! — адказаў сябра. Гэты давер да сваёй асобы моцна падбадзёрыў Мікалая Сцяпанавіча. Здалося яму, што сябра і заадно партыйны таварыш ўсклаў на




яго сапраўдную адказнасць за свой і яго лёс, за супольную іх будучыню.

— Давай, знойдзем Грышку Манцюка, — рашыў М. Бартнічук.

Супольна яны дамовіліся, што трэба сабраць найбольш давераных маладых людзей, асабліва тых юнакоў, якія рыхтаваліся да службы ў Чырвонай Арміі.

— Вечарам сустрэнемся ў лесе за вёскай, ва ўрочышчы Зялёнае, — запрапанаваў Бартнічук.

Прыдаўся ім вопыт падпольшчыкаў з перыяду дзейнасці ў КПЗБ. Сабралася, як запэўнівае М. Бартнічук, даволі многа маладых людзей. Апрача іхняй КПЗБоўскай тройкі, аб якой ён ужо ўспамінаў, на сустрэчу ва ўрочышча Зялёнае з'явіліся: В. А. Бадавец, В. А. Рышчук, С. А. Рышчук, В. Д. Рышчук, Н. Г. Рышчук, О. С. Навумчык, І. П. Навумчык, С. С. Вішанка, В. Я. Вішанка, В. Я. Матыевіч, А. Д. Васілюк, Т. П. Паўлючук і Ф. Е. Пашкоўскі. Гэтыя прозвішчы адзначаюць аўтары справаздачы аб падпольнай дзейнасці ў Кляшчэлеўскім раёне. У рапарце Рыгора Каравая і Мікалая Бартнічука, між іншым, сказана, што гэтыя людзі, жыхары вёсак Рагачы, Мікулічы і Мядзвежыкі, у першыя дні гітлераўскай акупацыі падабралі на шляхах адступлення Чырвонай Арміі 86 вінтовак, 16 аўтаматаў, 12 ручных кулямётаў, 62 гранаты, 22 супрацьтанкавыя кулямёты, 17 скрынак вінтовачных патронаў, 3 скрынкі патро-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# З ЧАГО ПАТРЫЯТЫЗМ

Ведаць гісторыю роднага — гэта пачатак патрыятызму. У школах найчасцей робяць так: настаўнік з вучнямі ідуць з роспытамі да найстарэйшых людзей у сваёй ваколіцы. Але колькі так можна?

Дакументы пра далёкае мінулае нашых Дубіч-Царкоўных, відаць, захоўваліся ў Пакроўскай царкве, пабудаванай у 1760-70 г.г. Але згарэла яна ў першыя дні нямецка-савецкай вайны. Некаторыя чыталі тыя паперы.

Дубічы-Царкоўныя ўзніклі ў XVI ст., пазней, чымсьці Вітава, заснаванае вялікім князем Вітаўтам, дваюрадным братам Ягайлы. Назва Дубічаў паходзіць ад месца, у якім раслі дубы. Царкву — Петрапаўлаўскую — пабудавалі калісь бліз урочышча Бахматы (татарская назва?). Каля гэтага месца праходзіла дарога з Бельска ў Камянец. Гэта быў гасцінец, які і пасёння завуць камянецкім. Вядома, была і карчма для падарожных. Дакладна невядома, калі Петрапаўлаўка згарэла, і карчма, як кажуць. Ёсць легенда ў народзе, што ў час таго пажару ікона Пакровы ўзнялася з ветрам ды ўпала блізка Дубічаў, у месцы, кудою ідзе дарога ў Грабавец. Там і пабудавалі людзі новую царкву. І разам з ёю змянілася назва Дубічаў на Дубічы-Царкоўныя.

Чаму падаю я гады будовы таго храма? Справа ў тым, што ў тыя ж 1760-70 гады была пабудавана царква і ў Вярстку, не так далёка ад нас, і яна шчасліва стаіць яшчэ. А ў вярстоцкай царкве захавалася трохі старых дакументаў, па якіх і вядомы год яе збудавання. Бацюшкай у Вярстку, Георгі Кос, мой добры знаёмы.

Даўней цэрквы былі уніяцкія, потым зноў сталі праваслаўнымі.

Сённяшняя царква ў Дубічах-Царкоўных пабудаваная на месцы спаленай у 1941 годзе.

Яшчэ адна асаблівасць у нашай вёсцы: яе канец ад Тафілаўцаў называюць „Туркі". Відаць, была на тое нейкая гістарычная прычына... Гавораць старыя і пра скарб Напалеона, быццам схаваны недзе каля Дубічаў-Царкоўных, калі французы давалі драпака з Расіі ў 1812 годзе.

Лягчэй жыць стала, аднак, пасля ліквідацыі паншчыны.

Будынак нашай школы настолькі старажытны, што ніхто не ведае, калі ён мог быць пабудаваны. Яму, кажуць, ужо не меней ста пяцідзесяці гадоў. Гэта была прыходская школка, пасля пераўтвораная ў двухкласнае народнае вучылішча. Нашу прыбелавежскую глушмань парушыла чыгунка, праведзеная з Чаромхі ў Гайнаўку. Яна праходзіць даволі блізка. Людзі пачалі мець нагоду бываць трохі ў шырэйшым свеце. Але найбольшы пераварот у свядомасці тутэйшых зрабіла славутае „бежанства" ў 1915 годзе. Уцякалі людзі перад наступаючымі немцамі, цэлымі сем'ямі ўцякалі, абсталяваўшыся ў глыбокай Расіі, нарэшце, найбольш у Тамбоўскай і Саратаўскай губернях. Мая бабуля Агафія з пяццю дзеткамі апынулася аж у Омску над Іртышом, за Уралам, значыць. „Бежанцы" вельмі добра ўспаміналі рускі народ, які сардэчна апекаваўся імі. Некаторыя дубічане засталіся жыць у Расіі.



Царква ў Дубічах Царкоўных. 1982 г. Фота Юркі Гаўрылюка.

Пасля першай вайны ў нашай ваколіцы пачаўся беларускі паўстанцкі рух, якім кіраваў Герман Шыманюк з суседняга Грабаўца. Яго памочнікам быў Андрэй Тамашук з Дубічаў-Царкоўных. Бацька Тамашука, Тарас, быў сувязным гэтага вялікага ўзброенага атрада беларускіх партызанаў, пасля 1920 года. Яны разбілі паліцыю ў Кляшчэлях, праводзілі смелыя акцыі і ў іншых месцах. Выдавалі сваю газету — „Беларускі партызан". Некаторыя з партызанаў, схопленыя санацыйнымі карнікамі, былі засуджаны на смерць: А. Тамашук, Я. Сахарчук, Я. Пітэлюк, Д. Мартынюк.

Калі дух беларускага паўстання апаў, пачала дзейнічаць тут славутая беларуская Грамада, а калі і яе разграмілі, то пашыралася дзейнасць КПЗБ. З'явіліся новыя палымяныя беларускія патрыёты, такія, як: Трахім Панфілюк, Тарас Тамашук, Агафон Тамашук, Васіль Тамашук, Мяфодзі Панфілюк, Рыгор Лемеш, Іван Хіліманюк.

Тады было надта цяжка жыць, але ніхто не падаў духам.

Дубічы-Царкоўныя моцна пагарэлі ў нямецка-савецкую вайну. Не кажучы ўжо пра жахі акупацыі. З'явіліся першыя партызаны, і дубічане дапамагалі ім. Дапамагалі ім Іван, Міхал і Уладзімір Панфілюкі, Фёдар Марчук, Дзмітры Панфілюк, Васіль Тамашук, Сымон Корх, Іван Хіліманюк, Лёнік Мацievіч, а таксама тагачасны солтыс вёскі — Фёдар Хіліманюк. Даходзіла да таго, што іншы раз партызаны, амаль не хаваючыся, прыходзілі ў вёску, што, вядома, было не вельмі каб разважліва. Але час быў такі, што ніхто нікога не выдаў немцам, не паддаўся ім.

Больш-менш столькі даведаўся я пра гісторыю нашых Дубічаў.

**Мікалай Панфілюк**

наў для супрацьтанкавых кулямётаў, 2 мінамёты, 67 снарадаў да гэтых мінамётаў, 2 скрынкі толу, 130 гарматніх снарадаў рознай велічыні.

Многа гэтага. Аж верыць не хочацца, што 16 сялянам за кароткі час удалося назбіраць і захаваць аж гэтакі арсенал зброі.

— Ды гэта яшчэ не ўсё! — рашуча адзначае Бартнічук. — Гэта толькі тая частка нашага пазнейшага партызанскага ўзбраення, якую мы падабралі ў Рагачоўскім лесе, у тым жа ўрочышчы Зялёнае, дзе апынулася ў акружэнні вялікая групіроўка Чырвонай Арміі, адступаючай ад Буга, значыць, ад Сямяціч і Драгічына. Вы чытайце далей, — паказаў ён мне адпаведнае месца ў сваім рапарце. — Апрача гэтага шмат чаго знайшлі мы ў лесе між вёскай Мядзвежыкі і Янцэвіцкімі хутарамі, Удалося нашым людзям пранікнуць таксама ў армейскія склады на станцыі Чаромха, дзе знаходзіўся ваенны гарадок. Вось прачытайце ў гэтым месцы, — паказаў ён. — Там усё падрабязна напісана.

І я, сапраўды, даведаўся, што савецкія актывісты, якія пазней сталіся апорай для антыфашысцкай дзейнасці ў Рагачоўскім сельсавеце, падабралі ў Янцэвіцкім лесе 10 штук станкавых кулямётаў, 100 аўтаматаў, 200 вінтовак ды 300 гранатаў і пісталетаў.

У чаромхаўскі ваенны гарадок адважыліся забрацца Навумчык, Рошчанка і Раманчук. Было гэта ў панядзелак, 23 чэрвеня 1941 года. Ваенны гарадок знаходзіўся ў лесе, не даязджаючы да станцыі Чаромха. Салдат у ім ужо не было. Чырвонаармейцы паўцякалі, а немцы не паспелі яшчэ дабрацца ў гэты пасёлак. Гаспадарылі сяляне. Яны мігам зляцеліся з навакольных вёсак, каб чым-колечы пажывіцца, прадбачваючы, што ваенныя пакінулі тут многа ўсялякага дабра, уцякаючы ў паніцы перад неспадзяваным ворагам. Сяляне ў першую чаргу бралі вопратку і прадукты харчавання, асабліва муку, крупу і цукар.

Навумчык, Рошчанка і Раманчук прывалаклі дадаткова яшчэ 200 кілаграмаў бікфордавага шнура, 30 скрынак толу, і 500 штук узрывальнікаў. Адным словам, поўны камплект для падрыву цягнікоў. Хапіла заправіць узрывальнік у тол, далучыць да яго бікфордавы шнур, які гарыць нават у вадзе, адыйсці на бяспечную адлегласць, падсунуць тол пад шпалы або пад рэйкі, падпаліць шнур, калі набліжаецца цягнік, ды паравоз разам з вагонамі ляцеў у адхон. Са свайго дзяцінства я памятаю, што між Нурцом і Чаромхай, значыць, па-суседску з вёскамі Рагачы, Мікулічы і Мядзвежыкі, здаралася такое шчасце ў час акупацыі і гітлераўскія эшалоны ляцелі з рэек.

Бартнічук кажа, што тол яны перавязлі на могільнікі і там яму наладзілі пахаванне, а іншую зброю закопвалі ў лесе, асабліва пад мурашнікамі, каб было вядома, дзе яе шукаць, тапілі ў балоце, хавалі ў старых запушчаных бульбяных ямах.

Ужо дома, вярнуўшыся з Брэста, калі я болей уважліва ўслухаўся ў расказ аб партызанскай дзейнасці Мікалая Бартнічука і Рыгора Каравая, дык шчыра кажучы, засумняваўся: ці сапраўды так адразу ўключыліся яны ў антыфашысцкую дзейнасць.

Найлепш, аднак, было б паехаць у тыя вёскі...

І я паехаў. У Мілейчыцах адшукаў я Міхася Вішанку, вядомага дзеяча БГКТ, да якога ўжо навечна прыліпла мянушка „Вішанка-беларус", каб можна было яго адрозніць ад іншых Вішанкаў, якіх у яго родных Мікулічах мнагавата. Вішанка-беларус найперш завёў мяне да старэнькага Антона Акочука, пра якога я ўжо даўней расказваў чытачам „Нівы". За ім гаротнае і складанае жыццё, у якім запісалася і Кастрычніцкая рэвалюцыя, і грамадзянская вайна, і смак батрацкага хлеба, і змаганне за народную ўладу ў пасляваеннай Польшчы. Аднак пра партызанаў чуў ён і ведаў усяго столькі, колькі чулі і ведалі ўсе іншыя сяляне з яго вёскі. Значыць, нямнога.

Тады мы накіраваліся да Дзмітрыя Бадаўца, які жыве ў суседніх Мікулічах. Але гэта ўжо зусім іншы расказ.

**Віктар Рудчык**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ВЯЛІКІ ВЕЧАР ДЗЯЦЕЙ У РЫБАЛАХ

Месяц перад 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі Лідзія Мартынюк — дырэктар Вяскоўага дома культуры ў Рыбалах, сабрала групу школьных дзяцей з класаў VI-VIII і распачала з імі апрацоўку праграмы на вечар 7 лістапада. І такі вечар адбыўся ў Рыбалах. Новы вакальна-дэкламатарскі маладзёжны калектыў выдатна здаў экзамен і, верым, што ён ад гэтага часу пойдзе далей з поспехам па выбранай дарозе, чаго яму шчыра „Зорка“ жадае.

Дзяцей на рыбалаўскі вечар сабралося многа і не толькі з самых Рыбалаў, але і з Канюкоў, з Паўлаў, і з Плёскаў. Са словам аб Кастрычніцкай рэвалюцыі выступіў старшыня мейскагміннай рады ПРОН у Заблудаве Юрый Аляксеюк.

Потым выступаў калектыў. Пяць дзяўчатак спявалі рускія, беларускія і польскія песні ў перамешку з дэкламацыямі вершаў трыма дзяўчаткамі. Вершаў было тры: рускі, беларускі і польскі. Песні спяваліся (між імі вельмі цікава „Пралетарская“ і „Толькі з табою“) у вельмі добрым суправаджэнні на акардэоне Яўгена Іванюка — дыякана рыбалаўскага прыхода. А спявалі дзяўчаты: Бася Туроўская, Гражына Наумюк, Кася Наумюк, Дамініка Ануфрыюк, Зося Герасімюк (чатыры з Канюкоў, адна з Рыбалаў).

Вершы дэкламавалі (вельмі моцны верш „Мы дзеці зямлі — Мы дзеці не хочам вайны“) Гражына Добаш, Сільвія Мартынюк і Ірэна Дзмітрук.

Адбыўся конкурс п.з. „Савецкі Саюз — наш прыяцель“. Яго апрацавала і цікава павяла бібліятэкарша Ніна Тамашук. Усе ўдзельнікі жыва рэагавалі на нялёгкія пытанні і выказалі высокую ступень ведаў аб Савецкім Саюзе. Найбольш актыўныя атрымалі кніжныя ўзнагароды. „Зорка“ запісала тры прозвішчы найлепшых: Юрка Швайко, Пётр Ціханюк, Барбара Туроўская.

На заканчэнне вечара дырэктар Лідзія Мартынюк прадбачыла удзельнікам дыскатэку.

(вв)

### ПАЛЯВАННЕ НА ЗУБРА

Друкуем вам, дарагія школьнікі, для добрае навукі, матэрыял пра выдатнага беларускага паэта Міколу Гусоўскага, які жыў і стварАў у XVI стагоддзі. І як многія ў той час, пісаў на лацінскай мове.

Нарадзіўся Мікола Гусоўскі прыблізна ў 1480 г. на Магілёўшчыне. Ад бацькі паляўнічага

(Працяг на стар. 10)



Паляванне на зубра ў XVI стаг.

Васіль Зуёнак

## ІМЯНІНЫ

Імяніны! Імяніны!
Весяліцца ўсе павінны.
Б'юць у бубны
Бліны —
Пытляваныя сыны
Цёткі пшаніцы —
Добрай маладзіцы.
Падбіваюць
Браценікі —
Грачанікі,
Ячменнікі,



Таўчонікі,
Драчонікі,
Смятаннікі-мачонікі.
Аж надзьмуўся пірог:
Пець старaецца за трох
А смяшлівыя аладкі
Дружна пляскаюць у ладкі.

Рот кружком —
Абаранак
Цягне „о-о-о“ сваё
Старанна.
Бутэрброды з каўбасой
Выцінаюць ва ўнісон.

Ну а гэта, ну а гэта —
Што за голас там з буфета?
Па-
зях-
нуў
Ба-
тон,
Сапсаваў вясёлы тон.

*Якія з вычытаных у вершы смакалыкаў робяць ваша мама ці бабуля? Якія яшчэ мясцовыя смакалыкі вы ведаеце?*

Вучнёўская творчасць

## НАДЫХОД ЗІМЫ

Адлятаюць птушкі ў вырай,
Ападае лісце з дрэў.
Ідзе зіма марозная
І з ёю першы снег.

Ужо дрэвы стаяць голыя,
Усё вецер мацней дзьме,
Мядзведзь лягае спаць,
Каб устаць ізноў з вясной.

Мароз рысуе ўзоры,
Шчыпае ў вушы, нос.
Дзеці бягуць на санкі —
Гуляюць цэлы дзень.

Януш Шварц, в. Ляхі
Школа ў Гародчыне, 7 клас



Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“

Вучуся я ў пятым класе Пачатковай школы ў Барысаўцы. У маім класе толькі пяць вучняў. Хоць нас мала, але ўсе мы вывучаем беларускую мову. А вось мы — пяты клас: Попка Марэк, Буйноўскі Артур, Андрэюк Анэта, Яканюк Ян і Ялоза Мажэна. Усе вучымся добра. Любім слухаць, як настаўнік Андрэй Ялоза чытае нам казкі.

Нядаўна разам прачыталі цікавае апавяданне з „Вясёлкі“ пад загалоўкам „Новы сшытак“. Яно нам вельмі спадабалася таму, што вучыць нас ашчаднасці — ашчаджаць сшыткі. Вось яго фрагмент: „Папера з дрэва робіцца, — пачаў тлумачыць тата. — Значыць, каб сшытак зрабіць, трэба дрэва спілаваць... Косцік слухаў тату і дзівіўся. Ён ніколі не думаў, што звычайны сшытак робіць так многа людзей. Усюды — праца чалавека. Каб не яна, нічога не меў бы ты, а жыў бы, як першабытны чалавек, у пячоры.“

Апавяданне спадабалася ўсім вучням. Ян Яканюк нарысаваў малюнак да яго п.з. „Як Косцік вучыўся“.

Мажэна Ялоза,
Барысаўка

### „ЗОРЧЫНА ПОШТА“

Малым мастакам, якія выканалі і прыслалі „Зорцы“ ілюстрацыі да беларускай казкі „Залатая яблынька“ прызнаем узнагароды. Цікавыя кніжкі атрымалі: Анэта Юзвовіч з Чаромхі-вёскі, Кася Рогач з Залук, Рафал Грушэўскі з Залук, Анна Грыцук з Залук, Дарота Попка з Барысаўкі, Эля Каролька з Барысаўкі, Анэта Буйноўская з Барысаўкі, Ася Давідзюк з Барысаўкі

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Фактычна гэта ўдасканаленыя гуслі. Проста замест пальцаў струны зацiскаюцца планкамі, якія даюць акорд. Рэпертуар музыкі складаўся з народных танцаў і песень.

(Працяг са стар. 9)

**ПАЛЯВАННЕ НА ЗУБРА**

спазнаў жыццё пушчы і звяроў. Вучыўся ў Кракаве. Свой найлепшы твор „Песня пра зубра" напісаў у Рыме, а выдаў у Кракаве ў 1523 г.

Памёр паэт пасля 1533 г. невядома дзе.

Ніжэй друкуем два фрагменты паэмы Міколы Гусоўскага „Песня пра зубра" ў перакладзе на беларускую мову Язэпа Семяжона. Малюнак паводле ілюстрацый Яўгена Куліка, выдатнага сучаснага беларускага мастака.

Фотарэпрадукцыя
М. Альхоўскага

**ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА**
(фрагменты)

Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх,
Граматах рускіх, кірыліцай пісаных вязкай.
Лад алфавіту наш прашчур для ўласнай карысці
У грэкаў пазычыў і, гукі мясцовых гаворак
Зладзіўшы з ім, іншаземцам, застаўся сабою.
Звычкі і побыт жывёл разнастайнай пароды,
Як і падзеі, апісаны ў граматах гэтых.
Што ж да зуброў, то такога магутнага звера
Шчасная доля, як дзіва часоў першабытных,
Толькі шчэ ў нас захавала, пад зоркай Палярнай.
Пліній, напрыклад, пісаў пра зубра і пра тура:
„Тур і бізон (па-мясцоваму — зубр) засталіся
Толькі ў лясах першабытных. Вучоныя кажуць, —
Сведчыць гісторык, — што лютасцю, злосцю і сілай
Роўнага звера не знойдзеш лясному асілку,
Што і ў лясах, і на выспах ляхаў і росаў
Быў і застаўся царом над усімі звярамі".

*

Лютасцю больш небяспечны, чым люты драпежнік,
Зубр для людзей не страшны, не чапай — не зачэпіць,
Будзе стаяць як укопаны — пастыр на варце,
Не страпянецца, а позіркам песціць няспынна
І чараду, і сям'ю ў чарадзе на папасе.
Смелы, і ў гэтым няма яму роўнага звера
У свеце жывёльным пушчанскага нашага краю.
Стрэнеш, бывала, такога дазорцу ў дуброве,
Стоішся ў хмызе і дзякуеш Богу — не згледзеў.
Дзе там — не згледзеў! Ты вокам змігрнуў — заўважае.
Дзесь калчаном шарганеш, на галінку наступіш —
Быццам працяты стралой, здрыганецца — і ў наступ.
Шчасце, калі пры такой выпадковай сустрэчы
Меч твой не блісну на сонцы, кап'ё не заззяла:
Смела ідзі без аглядкі, як быццам не бачыў
Гэтага страху. А ён, утаропіўшы вочы,
Будзе ўсё зіркаць, пакуль не схаваешся ў нетры.
Горш, калі часам наткнешся на матку з прыплодам,
Схопіш мушкет з перапуду — ох, гэта гарачка! —
Звер вокамгненна раз'юшыцца, рыкам аглушыць —
Знай, што раз'ятраны: хто яго ўздумаў трывожыць?
Тут не разгадвай, давай у пяту і, як дужы,
Скідвай убок, у гушчар, і пакуль яшчэ цэлы —
Дай божа ногі: за ўцёкшым гнацца не стане.

Пераклад на беларускую мову (з лацінскай)
Я.Семяжона

# З ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА



Гэты здымак нам дала са свайго хатняга архіва Насця Сцепанюк з Трасцянкі (цяпер жыве ў Беластоку). На здымку дзве Івонкі. Івонка, якая так спакойна заснула вечным сном, мела годзік і тры месяцы. Яна — унучка Насці Сцепанюк. Другая Івонка, якая з такой глыбокай сур'ёзнасцю і павагай развітваецца са сваёй памёршай сваячкай, называецца Міхальчук. Ёй тады ішоў чацвёрты годзік. Цяпер Івона Міхальчук вучаніца 7 класа.

Некаторыя дарослыя цяпер лічаць, што дзецям не трэба паказваць памёршых, нават блізкіх. Гэты здымак абвяргае такі падыход. Вымова яго кранае самыя лепшыя струны нашага сэрца, парушае нас сваёй найпрыгажэйшай чалавечнасцю. А чалавекам трэба вучыцца быць.

# Слаўныя людзі Беларусі

**ТУР**

Людная і працавітае было беларускае племя дрыгавічоў. Спрадвечна жылі яны на вялікім абшары, па якім цякуць рэкі: Прыпяць і яе левыя прытокі, сярэдняя частка Буга, верхняя Нарвы і Нёмана з упадаючымі ў іх рэчкамі. Дрыгавіцкія сялібы даходзілі аж да сярэдняга цячэння Дняпра.

Нашымі — беларусаў Беласточчыны — продкамі таксама былі дрыгавічы. Тут знаходзяцца рэшткі дрыгавіцкіх гарадзішчаў, могільнікі. На рацэ Бузе і сёння стаіць старажытны Драгічын — колішняя магутная крэпасць і вялікі горад дрыгавічоў.

Як падаюць хронікі, каля 980 года ў дрыгавіцкай зямлі панаваў князь Тур. Гэта быў мудры ўладар, адважны вой і магутны сабою чалавек. Не было наўкола такога князя, які б зраўняўся з ім розумам. Ніхто і ніхто не спыніла яго ў бітве. Ён заўсёды быў першым, сам даваў прыклад мужнасці сваёй дружыне. Не знайшоўся і такі сілач, які б адважыўся змерыцца з князем. Таму дрыгавічы называлі свайго князя Турам.

Туры — гэта тадышнія самыя магутныя лясныя звяры. Яны нагадвалі выглядам зуброў, але былі намнога большыя за іх. Апошні тур загінуў на паляванні на пачатку XVII стагоддзя.

Пры ўладзе князя Тура ў дрыгавічоў было вялікае і моцнае княства. Яны ўдала абараняліся ад ворагаў. Мелі добрую гаспадарку і ладзілі даходны гандаль. Пад наглядам князя на беразе Прыпяці пабудавалі дрыгавічы велічную крэпасць і абшырны горад, назвалі яго Туравам. Ад назвы сталіцы дрыгавіцкае княства стала называцца Тураўскім княствам, а дрыгавічы — тураўцамі.

У сённяшнім Тураве ўзвышаецца Турава Гара, з якой, як расказваюць легенды, князь Тур любіў пазіраць на шырокі разлог прыпяцкай даліны. Намагаўся ахапіць зрокам неабсяжны прастор сваіх уладанняў, спрабаваў высачыць, ці не набліжаюцца ворагі. Паблізу гэтай гары знаходзіўся глыбокі Тураў калодзеж, вадой з якога князь Тур толькі і мог суняць смагу, калі вяртаўся ў сваю сталіцу з крывавай бітвы.

Хоць у хроніках пра тое не гаворыцца, але па вусных пераказах князь Тур загінуў, мабыць, у бітве, абараняючы незалежнасць роднай зямлі.

Мікола Гайдук



Старажытны Тураў. Рэканструкцыя.

# Вясёлы куточак

*

Вясной дрэвы апырскваюць ядавітымі рэчывамі.

*

Хвойныя дрэвы на зіму не падаюць.

*

Калі сонечны прамень пападае на люстра, то адтуль выскаквае зайчык.

*

Мядзведзь ссе лапу ў бярлозе, каб не памерці з голаду. Ён высысае тлушч, які накапіў за лета.

**А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А**

**ЧАТЫРЫ ВУЗЛЫ**




Калі пацягнеце за канцы вяровачак, якія вузлы завяжуцца?

# ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220009, г. Мінск-9, вул. Чабатарова, 12, кв. 20 Аляксандр Буткевіч, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 3, Света Шырачэнка, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 2, Рыма Маляўка, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 2, кв. 64, Вераніка Ядлоўская, 4 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 47, кв. 41, Лена Манкевіч, 8 клас.

* * *

БССР, 220115, г. Мінск-115, вул. Кіжэватава, 78, кв. 184, Іра Шык, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 12, кв. 50, Вова Фадзееў, 4 клас.

* * *

СССР, 163019, г. Архангельск, ул. Приморская, 9, кв. 3, Горбачёвой Любе, 4 клас.

* * *

СССР, 346712, Ростовская обл., Аксайский р-н, ст. Александровка, ул. Молодёжная, 12, Шутковой Свете, 16 год.

